ГРОДНА
№4 (579),
20 лютага 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Давайце вучыцца любові!




4 сакавіка Каталіцкі Касцёл успамінае св. Казіміра – каралевіча польскага і вялікага княжыча літоўскага.

на старонцы 2

## Інструмент, які варта асвойваць




Перад споведдзю мы часта адчуваем страх. Што ўжо казаць пра генеральную споведзь. Але ў страху толькі вочы вялікія, а генеральная споведзь з'яўляецца карысным інструментам духоўнага жыцця.

на старонцы 4

## Грахі, якія наклікаюць Божую помсту




Катэхізіс Каталіцкага Касцёла прыгадвае, што існуюць "грахі, якія наклікаюць Божую помсту: кроў Авеля, садомскі грэх, плач народа, прыгнятаемага ў Егіпце, скарга чужаземца, удавы і сіраты, несправядлівасць да работніка" (параўн. ККК 1867).

на старонцы 6

# АДРОЗНІЦЬ КАНФЕСІЯНАЛ АД КАБІНЕТА ПСІХОЛАГА




**Споведзь – гэта адзін з моцных асацыятыўных каталіцкіх сімвалаў. Сцэны з канфесіяналам сустракаюцца і ў камедыях, і ў баевіках. Разам з тым споведзь застаецца адным з найбольш практычных сакрамантаў. Не толькі таму што св. Камунія патрабуе пакаяння, але і з-за бясконцых праблем, траўм і пошуку спагады ды міласэрнасці. Размаўляем з экзарцыстам пра споведзь, мяжу псіхалагічных і духоўных праблем.**

на старонцы 3

# "МОЙ МАЛЕНЬКІ КРЫЖЫК". ПРА ПРЫКЛАД ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ



Марына згуртавала вакол сябе парафіян і духавенства

**З таго моманту, як Марына даведалася пра хваробу, яна пачала весці дзённік. Не для сябе, але дзеля іншых. Жанчына горача верыла, што калі Бог дасць, абавязкова наступіць ацаленне, а яе дзённік будзе сведчаннем цуду. Ён будзе выдадзены, каб стаць падтрымкай і надзеяй для тых, хто пакутуе ад анкалогіі. Марыла, што дзённік будуць аддаваць за ахвяраванні, а сабраныя сродкі накіроўваць хворым на рак.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## *Дарагія Чытачы!*



*Час карнавалу хутка скончыцца. Літаральна праз хвіліну мы ўвойдзем у шчымлівую цішыню Вялікага посту, каб накіраваць усяго сябе, свой розум і волю да Бога і нашых адносін з Ім. З амбонаў святынь зноў пачуем пра навяртанне, пакаянне, споведзь...*

*Навяртанне – гэта не нейкае катаванне, не нейкі Божы спосаб адабраць у нас штосьці сілай ці пакараць за нашы грахі і слабасці. Кс. Пётр Сліжэўскі, вядомы ў Польшчы евангелізатар, у сваёй кнізе "Споведзь. Гэта сапраўды дапамагае!" напісаў пра навяртанне геніяльную рэч, а менавіта прызнаў яго "пераасэнсаваннем таго, што адбываецца паміж мной і Богам", і адзначыў, што "гэта чарговы выбар – надалей абраць Бога, а не Яго канкурэнтаў".*

*Няхай кожная добра пражытая споведзь стане для кожнага з нас магчымасцю ўсвядоміць, што збіліся з правільнага шляху, а таксама магчымасцю зноў выбраць Любоў!*

*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**20 лютага**
***Успамін св. Пятра Дам'яна, біскупа і доктара Касцёла.***
*Св. Пётр у цяжкія для Касцёла часы дапамагаў Папам, падтрымліваючы рэформу Касцёла дзеяннямі і пяром. Ён рабіў шматлікія спробы прымірыць канфліктуючую свецкую і духоўную знаць. Папа Стэфан IX прызначыў яго кардыналам і біскупам Осты. Адразу пасля смерці ў 1072 годзе ён стаў ушаноўвацца як святы.*

**22 лютага**
***Свята катэдры св. апостала Пятра.***
*Свята катэдры св. апостала Пятра нагадвае, што Касцёл паўсюдны, гэта значыць каталіцкі і апостальскі, а Рым – меса, дзе св. Пётр даў сведчанне веры і любові да Езуса, аддаючы за Яго сваё жыццё. Гэтае свята павінна нагадаць, што Папы як біскупы Рыма кіруюць Касцёлам, будучы ўстаноўленымі Хрыстом, таму вернікі павінны іх паважаць і быць ім паслухмянымі.*

**23 лютага**
***Успамін св. Палікарпа, біскупа і мучаніка.***
*Св. Палікарп, вучань св. апостала Яна і біскуп Смірны, з'яўляецца адной з самых шануемых асоб хрысціянскай старажытнасці. Ён быў у Рыме разам з папам Аніцэтам, каб вырашыць спрэчнае пытанне аб святкаванні Вялікадня. Сваё доўгае жыццё скончыў хвалебным мучаніцтвам – быў спалены на стадыёне ў Смірне 23 лютага 155 года.*

**2 сакавіка**
***Папяльцовая серада.***
*Папяльцовая серада распачынае саракадзённы перыяд падрыхтоўкі да самай вялікай хрысціянскай урачыстасці – Вялікадня (у гэтым годзе Вялікдзень будзем святкаваць 17 красавіка). Вялікі пост, як называюць гэты перыяд, доўжыцца да пачатку літургіі Вячэры Пана ў Вялікі чацвер (сёлета 14 красавіка).*

# ДАВАЙЦЕ ВУЧЫЦЦА ЛЮБОВІ!

працяг са с. 1

**Куды б мы ні зірнулі, усе гавораць пра любоў. Пра яе сёння можна даведацца з фільмаў, прачытаць у каляровых газетах. Шмат слоў пра яе чуем у сучасных песнях, знаходзім інфармацыю ў інтэрнэце і тэлебачанні. Апошнім часам і на старонках нашай газеты было некалькі вартых матэрыялаў пра любоў.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




*Ян Длугаш прысутнічае падчас малітвы Казіміра, абраз Фларыяна Цынка*

Гэтая тэма таксама вельмі часта ўздымалася Панам Езусам падчас Яго грамадскай дзейнасці: "Заставайцеся ў Маёй любові! Вось запаведзь Мая, каб вы любілі адзін аднаго" (параўн. Ян 15, 9–12). Але насамрэч цяжка растлумачыць, што такое любоў. Нам значна прасцей сказаць, у чым яна заключаецца, якія мае праяўленні. І на самой справе тое, ці даведаемся, што такое сапраўдная любоў, ці пазнаем яе, залежыць ад кожнага з нас: ад таго, чым кормімся, чым жывём, якія каштоўнасці шукаем.

**На працягу ўсяго свайго жыцця св. Казімір нястомна рыхтаваўся да сустрэчы з Езусам Хрыстом і Найсвяцейшай Паннай Марыяй, якой ён так давяраў і якой дазволіў весці сябе па шляху веры і чыстай любові.**

Выдатнай дапамогай, каб зразумець, што значыць знайсці сапраўдную любоў, з'яўляецца прыклад св. каралевіча Казіміра, які жыў у XV стагоддзі. Гэты вялікі святы – узор веры і чысціні для моладзі, які, разам з тым, клапаціўся пра простага чалавека, асабліва пакрыўджанага мацнейшым, – можа стаць для нас выдатным прыкладам, як жыць сапраўднай любоўю.

Менавіта любоў да Езуса Хрыста была прычынай, па якой св. Казімір, сын караля Казіміра Ягелончыка, дапамагаў бедным, хворым, вязням, падарожнікам і ўсім церпячым. Для ўдоў, сірот і прыгнечаных ён быў не толькі дабрадзеем, але і сынам, бацькам і братам. У сваіх дзеяннях ён вылучаўся рашучасцю. Сваімі паводзінамі заўсёды паказваў узор духоўнай беднасці і лагоднасці.

Св. Казімір паставіў вечныя каштоўнасці над часовымі дабротамі, якія давала яму нараджэнне. З дзяцінства ён меў гарачае набажэнства да Найсвяцейшага Сакраманту і Найсвяцейшай Панны Марыі. У гэтым заключалася яго выкананне ўказання Настаўніка: "Заставайцеся ў Маёй любові!". Паколькі св. Казімір быў слугою самых бедных, Гасподзь запрасіў яго да ўдзелу ў вечнай гасціне і сам "пачаў служыць яму".

**Свята св. каралевіча Казіміра адзначаем 4 сакавіка.**

**Св. Казімір памёр 4 сакавіка 1484 года ў каралеўскім замку ў Гродне ва ўзросце ўсяго 26 гадоў. Яго цела было змешчана ў віленскай катэдры і знаходзіцца там дагэтуль. Ён другарадны заступнік нашай дыяцэзіі.**

Давайце вучыцца ў каралевіча, як выбіраць Хрыста ў кожную хвіліну, і, гледзячы на прыклад Яго жыцця, адкрываць для сябе сапраўдную любоў, якая заключаецца ў наследаванні Езусу Хрысту.

# АДРОЗНІЦЬ КАНФЕСІЯНАЛ АД КАБІНЕТА ПСІХОЛАГА

праця́г са с. 1

**Размаўляў Арцём Ткачук**

*– Чым споведзь адрозніваецца ад сеанса ў псіхолага ці псіхатэрапеўта?*

– Споведзь – гэта сакрамант, у якім чалавек можа атрымаць адпушчэнне грахоў. Акрамя таго, што ёсць нейкія грахі, асоба прыходзіць да споведзі са сваімі духоўнымі ці жыццёвымі праблемамі. Спаведнік дае парады, слухае чалавека. Калі ж бачны нейкія псіхічныя ці псіхалагічныя праблемы, то святар можа скіраваць асобу да іншага спецыяліста. Вось тут і праходзіць мяжа.

*– У Вашай практыцы былі выпадкі, калі чалавек прыходзіў да споведзі, а Вы накіроўвалі яго да псіхолага? Без адпушчэння грахоў з-за адсутнасці да гэтага падставы.*

– У маёй практыцы не здаралася такога, што чалавек спавядаецца, але ў яго не грахі, а нейкія захворванні. Бываюць памежныя выпадкі: асоба ўсведамляе грахі і нясе за іх адказнасць, але мае таксама дадатковыя псіхалагічныя праблемы. Тады раю звярнуцца да псіхолага. Выпадкаў чыста клінічных захворванняў у маіх пэнітэнтаў не было.

*– Я правільна разумею, што людзі прыходзяць з жыццёвымі праблемамі і споведзь найчасцей з'яўляецца таксама нейкім псіхалагічным сеансам?*

– Так, напэўна, працэнт такіх споведзей сёння дастаткова вялікі.

*– А што з залежнасцямі: алкаголь, секс, парнаграфія, наркотыкі, камп'ютэрныя гульні?.. Калі споведзі ўжо недастаткова і варта звяртацца да спецыялістаў?*

– Тут трэба распазнаваць, наколькі чалавек можа кантраляваць свае дзеянні. Таму раю рабіць усё паралельна: хадзіць да псіхатэрапеўта, але і каяцца за грахі таксама. Усё-такі нейкі працэнт адказнасці асоба нясе за свае ўчынкі. Гэта ўжо грэх меншай вагі, але для духоўнага дабра чалавека трэба трываць у Божай ласцы.

*– Ці праўда, што ў падобных выпадках духоўны кіраўнік можа дазволіць такой асобе на нейкі час і пры пэўных умовах прыступаць да Камуніі без споведзі?*

– Тут трэба падыходзіць вельмі далікатна. Аднак у любым выпадку, калі чалавек інтэнсіўна над сабой працуе, ходзіць да псіхатэрапеўта, то споведзь пасля кожнага граху будзе мець пазітыўны эфект у справе вызвалення ад залежнасці. Прыманне Камуніі ў цяжкім граху без споведзі – гэта рэч недапушчальная.

Калі ж чалавек настолькі псіхічна хворы, што не можа адказваць за сябе, то ён і паспавядацца не можа, бо не нясе адказнасці за свае ўчынкі. Аднак калі ёсць элемент адказнасці і чалавек не псіхічна хворы, хоць і залежны, то споведзі патрэбныя. І разам з гэтым неабходна лячэнне ў псіхатэрапеўта.

*– Атрымліваецца, што супрацоўніцтва псіхалогіі і споведзі можа быць вельмі плённым.*

– Так, пагаджуся.

*– Ці хапае радавому святару, які скончыў адну з нашых беларускіх семінарый, ведаў па псіхалогіі, каб адрозніць псіхалагічныя ці клінічныя праблемы пэнітэнта?*

– Несумненна. Базавых ведаў дастаткова, каб адрозніваць, што ў нейкім выпадку кампетэнцыя выходзіць далёка за межы споведзі і чалавеку неабходна кансультацыя спецыяліста. Святар можа параіць самыя простыя псіхалагічныя рэчы, але калі гэта не дапамагае, то нельга займацца чужой працай.

*– А сустракаліся адваротныя сітуацыі, калі псіхолаг адпраўляў чалавека да святара?*

– Так, былі выпадкі, калі псіхіятры пасля ўсіх даследаванняў адпраўлялі чалавека да мяне. Яны прыходзілі да высновы, што гэта не клінічны выпадак і трэба, каб святар памаліўся.

*– Гэта сітуацыі, калі чалавека накіроўвалі да экзарцыста, так?*

– Так, менавіта.

*– І часта такое здаралася ў Вашай практыцы?*

– Такое было, хіба што, два разы.

*– Спецыялісты тады мелі рацыю?*

– Так, мелі.

*– Споведзь – гэта таксама моцнае эмацыянальнае перажыванне. Эмоцыі падчас споведзі перашкаджаюць ці не?*

– Калі эмоцыі з'яўляюцца выражэннем унутранага стану чалавека, то гэта не перашкаджае. Асоба раскрывае душу, перажывае раскаянне, і кожная эмоцыя мае сваё значэнне. Таму да эмоцый людзей трэба ставіцца сур'ёзна, успрымаць як мову душы. Эмоцыі не перашкаджаюць, а дапамагаюць. Гэта цэласнасць карціны стану чалавека.

*– А бываюць нездаровыя эмоцыі ў людзей падчас споведзі?*

– Існуе пяць умоў пакаяння. Сярод іх жаль за грахі. Часам (вельмі рэдка) чалавек прыходзіць да споведзі і не бачыць сваіх грахоў, прыходзіць, каб пасварыцца з Богам, бо ў яго "накіпела". З такімі праблемамі можна паразмаўляць са святаром па-за канфесіяналам, таму што споведзь – гэта пакаянне: асоба раскайваецца ў грахах і атрымлівае іх адпушчэнне.

*– Ці ёсць праўда ў выказванні: "Калі спавядацца і весці актыўнае духоўнае жыццё, то да псіхолага наўрад ці трэба будзе"?*

– Хутчэй не. У чалавека могуць быць глыбокія траўмы ад насілля, несправядлівасці, дзіцячыя траўмы. Трэба прызнаць, што ў такіх справах ёсць спецыялісты, якія больш эфектыўна і правільна навучаць, як выходзіць з падобных праблем. Не толькі малітва і пакаянне. Грэх прабачаны, але глыбокія крыўды застаюцца, і Бог дае нам для гэтага дадатковых прафесіяналаў. Добра яшчэ, калі псіхолагі і псіхатэрапеўты не выключаюць рэлігійнасць чалавека, сферу Бога. Тады яны сапраўды могуць вельмі дапамагаць.

*– Ёсць католікі, якія кажуць, што само па сабе карыстанне сакрамантамі выключае псіхалагічныя праблемы. Ці што выключна малітвай можна ўсё вырашыць. Якая небяспека можа хавацца ў такім меркаванні?*

– Такое меркаванне можна праверыць па плёне. Ці вырашае чалавек праблему рэлігійнымі практыкамі? Ці, можа, пагружаецца яшчэ болей? Магчыма, усё ж трэба звярнуцца да спецыяліста, каб разабрацца ў справе?

У сваёй практыцы не магу прыгадаць такіх выпадкаў. У асноўным, людзі прыходзяць да святара ў апошнюю чаргу: спачатку абыходзяць усіх псіхолагаў і псіхатэрапеўтаў, а калі ўжо няма ніякага ратунку, звяртаюцца да Бога як да апошняй інстанцыі. Гэта найбольш частыя выпадкі.

*– Як асабіста Вы адчуваеце падчас споведзі людскія праблемы псіхалагічнага характару?*

– Гэта не адчуванне, а простая базавыя веды па псіхалогіі. Ёсць грэх і слабасць, але калі размаўляеш з чалавекам і даведваешся яго гісторыю, то разумееш, колькі тут усяго паўплывала, які баласт вісіць на ім і як з усім цяжка справіцца. Калі б гэта былі чыста рэлігійныя справы, то малітва і практыкі дапамаглі б дастаткова хутка: чалавек пакаяўся – і праблема вырашылася. Калі ж яна, нягледзячы ні на што, усё роўна застаецца, то гэта ўжо праблема таксама людской псіхалогіі ці псіхікі.

*– У якіх выпадках параіце асобе шукаць духоўнае кіраўніцтва?*

– Калі чалавек стараецца неяк глыбока перажываць сваю сувязь з Богам, то духоўны кіраўнік шмат у чым дапаможа. Ініцыятыва найчасцей зыходзіць ад самога пэнітэнта. Чалавек няўпэўнены, шукае адказаў, і спаведнік можа добра пакіраваць.

Пытанні духоўнага кіраўніцтва вырашаюцца ў асноўным падчас споведзі. Чалавеку адпавядае гэты святар, яго парады, ёсць паразуменне і вынік. Асоба пачынае спавядацца ў аднаго ксяндза, і гэта таксама духоўнае кіраўніцтва. Таксама і святар падчас споведзі можа параіць духоўнае кіраўніцтва. Ёсць выпадкі, калі споведзь у аднаго ксяндза можа дапамагчы лепш вырашыць праблему.

*– Што б Вы параілі асобе, якая задумваецца над духоўным кіраўніцтвам і хацела б мець такога кіраўніка? З чаго пачаць?*

– Дастаткова прыйсці да споведзі і сказаць святару пра гэта, прывесці сваю матывацыю. Ксёндз можа пагадзіцца, можа параіць іншага.

Духоўныя справы не абавязкова вырашаць тэт-а-тэт, можна таксама стэлефанавацца, спісацца ў сацыяльных сетках. Магчымасць атрымаць параду не абавязкова павінна быць звязана са споведдзю, гэта можа быць проста духоўная размова. Святар можа быць і за мяжой, але падтрымліваць чалавека. Гэта і ёсць духоўнае кіраўніцтва.

*– Часта здараецца, што споведзь змяняе жыццё чалавека?*

– Напэўна. У маёй практыцы гэта здаралася неднаразова. Я бачыў, як Божая ласка змяняла людзей. Гэта было здзіўленнем і для мяне, і для самога чалавека. Распачыналася ўсё з банальных спраў. Часам чалавек ужо пачаў сваё навяртанне, быў гатовы да перамен, і споведзь стала толькі момантам распачацця сапраўднай прыгоды з Богам. А часам проста адна споведзь, пазней другая, трэцяя – і пачынаюцца плады. Аднак у кожным з выпадкаў усё было звязана з сакрамантам.

*– Чуў такое выказванне, што "споведзь – гэта вызнанне: вызнанне грахоў і вызнанне міласэрнасці". На чым людзі больш сканцэнтраваны?*

– Цяжка сказаць. З майго вопыту, большасць людзей падыходзіць адэкватна да гэтай справы. Людзі разумеюць сваю грахоўнасць, але і патрэбу Божай міласэрнасці. Таму ўсё-такі прыходзяць да міласэрнага Айца.

*– А ці ўвогуле кепска выкарыстоўваць элементы псіхалагічных размоў падчас споведзі? Калі з добрым намерам і для дабра чалавека.*

– Калі гэта адзін, другі, трэці раз, то гэта нармальна. Трэба дакладна зразумець чалавека, выслухаць і пакіраваць. Калі споведзь усё-такі застаецца на ўзроўні нейкай псіхалагічнай размовы, то варта параіць чалавеку звярнуцца да людзей, якія прафесійна дапамогуць вырашыць яго праблему. Бо споведзь прызначана для пакаяння і паяднання чалавека з Богам, а не выключна для псіхалагічных размоў.



**Кс. Андрэй Шут** – экзарцыст Пінскай дыяцэзіі, пробашч парафіі св. Антонія ў Рагачове. Прыняў святарства ў 2003 годзе.

---

## АКТУАЛЬНА

**Ватыканскае радыё**

### Новы падсакратар Кангрэгацыі па справах духавенства

Як паведаміла Зала Друку Святога Пасаду, папа Францішак прызначыў намеснікам сакратара Кангрэгацыі па справах духавенства кс. прэлата Сімонэ Рэну, супрацоўніка гэтай дыкастэрыі.

Кс. Рэна нарадзіўся ў італьянскім Лечэ 10 ліпеня 1974 года. Стаў святаром у чэрвені 2004 года ў роднай архідыяцэзіі. Вывучаў права ў Каталіцкім універсітэце Найсвяцейшага Сэрца ў Мілане і атрымаў ступень доктара кананічнага права ў Латэранскім універсітэце. У сваёй роднай архідыяцэзіі выконваў розныя функцыі: пробашча, кіраўніка душпастырства моладзі і ўніверсітэту, суддзі касцёльнага трыбунала, канцлера. У Кангрэгацыі па справах духавенства працуе з 1 кастрычніка 2019 года.

### Супрацоўніцтва з іспанцамі на карысць пажылых

Каталіцкі ўніверсітэт св. Антонія ў Мурсіі (Іспанія) далучаецца да ініцыятывы Святога Пасаду на карысць пажылых людзей. ВНУ наведаў старшыня Папскай акадэміі жыцця.

Ватыканскі іерарх нагадаў, што Каталіцкі Касцёл распрацаваў Хартыю правоў пажылых людзей і абавязкаў супольнасці, якая стала прапановай у фарміраванні дзяржаўнай палітыкі. У Італіі ўжо створана змешаная камісія, якая ўключыла прадстаўнікоў урада і Святога Пасаду. Хасэ Луіс Мендоса, рэктар Універсітэта св. Антонія запэўніў, што зробіць аналагічную прапанову ўраду Іспаніі.

### Бенедыкт XVI скіраваў ліст на тэму злоўжыванняў у Касцёле

Папа на пенсіі выказаў вялікі боль і шчырую просьбу аб прабачэнні за выпадкі сексуальных злоўжыванняў, якія выявіліся ў Касцёле падчас яго біскупскага і папскага служэння.

Быў абнародаваны ліст Бенедыкта XVI да вернікаў Мюнхенска-Фрайзінгскай архідыяцэзіі. Ён стаў адказам на абнародаванне дакладу аб сексуальных злоўжываннях у гэтым лакальным Касцёле.

Папа-эмерыт узгадаў пра асабістыя сустрэчы з ахвярамі сексуальных злоўжыванняў з боку прадстаўнікоў духавенства, падчас якіх мог "паглядзець у вочы наступствам велізарнай правіны" і зразумець, што "мы самі ўцягваемся ў гэтую велізарную правіну, калі занядбаем яе ці не змагаемся з ёй з належнай рашучасцю і адказнасцю, як часта адбывалася і адбываецца".

### Малітоўныя інтэнцыі на сакавік

**паўсюдная**

Молімся, каб мы, хрысціяне, перад абліччам новых біяэтычных выклікаў заўсёды падтрымлівалі абарону жыцця малітвай і грамадскай дзейнасцю.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб аднаўленні рэлігійнага жыцця ў нашых сем'ях і парафіях.

# АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ КЛАРЭТЫН А. ПЁТР МАРЦІНЕЦ




Св. Імша ў касцёле ў Азёрах у інтэнцыі памерлага а. Пятра

**6 лютага на 79-ым годзе жыцця адышоў у вечнасць а. Пётр Марцінец CMF. Святар значную частку пастырскага служэння прысвяціў Гродзенскай дыяцэзіі, 17 гадоў з'яўляючыся пробашчам парафіі Хрыста, Валадара Сусвету, у Азёрах, душпастырам парафій Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі ў Жытомлі і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Кашубінцах (дэканат Гродна-Усход). Некалькі гадоў быў таксама дэканам дэканата Гродна-Усход і любімым спаведнікам семінарыстаў, святароў і кансэкраваных асоб.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Пахавальная св. Імша адбылася ў Польшчы 11 лютага ў касцёле св. Марціна ў Пачыне (Глівіцкая дыяцэзія). Цела святара спачыла на мясцовых могілках. Напярэдадні яго пахавання св. Імшу ў касцёле ў Азёрах у інтэнцыі памерлага святара ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. На Эўхарыстыі сабраліся шматлікія вернікі, каб на малітве дзякаваць Пану Богу за дар святара, які ахвярна служыў сярод іх, а таксама прасіць для яго ласкі Неба.



*Айцец Пётр Марцінец CMF нарадзіўся 13 мая 1943 года ў Аполі (Польшча). У 1971 годзе скончыў Папскую семінарыю ў Вроцлаве. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 29 чэрвеня 1972 года ў Аполі.*

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**КАНАДА.** Канферэнцыя Біскупаў краіны абвясціла новыя даты візіту дэлегацыі прадстаўнікоў карэнных народаў у Рым для сустрэчы з Францішкам. Візіт будзе рэалізаваны ў канцы сакавіка 2022 года. У заяве епіскапату гаворыцца, што ў снежні 2021 года з прычыны хуткага распаўсюджання варыянту Omicron каранавіруса было прынята рашэнне аб пераносе візіту ў мэтах бяспекі ўсіх дэлегатаў з улікам нявызначанасці падарожжа і нестабільнай сітуацыі як у Канадзе, так і ў свеце. Чакаецца, што Пантыфік сустрэнецца з некалькімі дэлегацыямі прадстаўнікоў карэннага насельніцтва на працягу тыдня. Фінальная аўдыенцыя для ўсіх удзельнікаў пройдзе ў пятніцу 1 красавіка.

**АРАБСКІЯ ЭМІРАТЫ.** Арцыбіскуп Эдгар Пэнья Пара ўзначаліў цырымонію адкрыцця Апостальскай нунцыятуры ў сталіцы Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Іерарх нагадаў пра візіт Францішка ў Абу-Дабі ў 2019 годзе і заклікаў мясцовую хрысціянскую супольнасць "маліцца аб благаслаўленні ў руплівасці, цярпенні і надзеі, не паддавацца расчараванню, нават калі намаганні, здаецца, не прыносяць плёну". Святы Пасад і Аб'яднаныя Арабскія Эміраты ўстанавілі поўныя дыпламатычныя адносіны ў 2007 годзе. У 2019 годзе Францішак стаў першым Папам у гісторыі, які наведаў Аравійскі паўвостраў, у прыватнасці Абу-Дабі.

**В'ЕТНАМ.** У В'етнаме загінуў 40-гадовы каталіцкі святар, дамініканец а. Жузэ Тран Нгок Тхань. Трагедыя здарылася ў дыяцэзіі Дак-Мот, у 40-ка кіламетрах на паўночны захад ад Кантума. Злачынца, узброены нажом, накінуўся на манаха, які спавядаў перад вячэрняй св. Імшой у касцёле. Пазней ён быў затрыманы паліцыяй. Пахаванне памерлага дамініканца прайшло 31 студзеня ў горадзе Б'енхоа. В'етнам уваходзіць у прадстаўлены нядаўна міжнароднай ініцыятывай "Open Doors" рэйтынг 50-ці самых небяспечных для хрысціян краін у свеце.

**ПОЛЬШЧА.** У Познані адкрылася цырульня для бедных. Ініцыятарамі гэтай дзейнасці з'яўляюцца Кангрэгацыя Сясцёр св. Альжбеты і "Карытас". Альжбеткі і да гэтага часу актыўна ўдзельнічалі ў дапамозе патрабуючым, напрыклад, кіруючы сталовай. Акрамя стрыжкі валасоў, гэтае месца мае яшчэ і евангелізацыйнае значэнне. На сценах памяшкання, якое будзе выкарыстоўвацца як цырульня, размешчаны цытаты з Біbліі і словы духоўных асоб. "Мы таксама ўсталявалі тэлевізар, па якім трансліруюцца розныя сведчанні навяртання і вызвалення ад залежнасцей. У зале чакання таксама будзе пачастунак і штосьці для чытання", – кажа с. Юзэфа з Кангрэгацыі Сясцёр св. Альжбеты.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ІНСТРУМЕНТ, ЯКІ ВАРТА АСВОЙВАЦЬ

працяг са с. 1

**Пра тое, чым генеральная споведзь адрозніваецца ад традыцыйнай, калі яна патрэбна і як да яе рыхтавацца мы пагаварылі з бр. Сяргеем Мацюшонкам з Ордэна Меншых Братоў Капуцынаў, якія "спецыялізуюцца" ў спавяданні і духоўным кіраўніцтве.**

*Размаўляла Кацярына Паўлоўская*

***– Брат Сяргей, чым адрозніваецца генеральная споведзь ад традыцыйнай?***

– Генеральная споведзь – гэта тая самая споведзь, толькі з іншага перыяду жыцця. Звычайна спавядаемся з прамежку часу ад апошняй споведзі да сённяшняга дня. Генеральная ж споведзь ахоплівае альбо ўвесь перыяд жыцця да моманту першай генеральнай споведзі, альбо ад апошняй генеральнай споведзі да актуальнай. Адзінае, калі дарослы чалавек першы раз ідзе да споведзі, то ў яго першая споведзь атрымліваецца як генеральная.

***– Калі трэба прыступаць да генеральнай споведзі?***

– Ёсць тры сітуацыі, у якіх "выкарыстоўваецца" генеральная споведзь: калі яна абавязковая, калі яна патрэбная і калі яна карысная.

У якіх сітуацыях яна абавязковая? Калі я рэгулярна прыступаю да гэтага сакраманту, але маю непакой сумлення. Штосьці з мінулага мяне непакоіць, не магу пра гэта забыцца, яно не дае мне духоўнага супакою.

Іншы выпадак – калі я разумею, што ў мінулым з несвядомасці альбо нават са страху ці па нейкіх іншых прычынах затаіў цяжкі грэх. Магчыма, не да канца разумеючы, што гэты грэх цяжкі, важны. Потым жа я сталею, чытаю духоўную літаратуру, развіваюся, таксама праз малітву і Божае слова. І часта менавіта ў святле Божага слова Бог ачышчае маё мінулае, паказваючы пэўныя грахі, з якіх я калісьці не паспавядаўся альбо якія свядома затаіў. Вось тады сумленне гаворыць, што трэба ісці да споведзі.

Другая катэгорыя сітуацый – калі споведзь патрэбная. Тады штосьці з майго мінулага мне перашкаджае, нашу пэўныя сумненні ў сумленні і праз іх не магу перайсці на вышэйшы ўзровень духоўнага развіцця. Гэтыя сумненні могуць адносіцца і да споведзі, але яны не такія радыкальныя, як у першым выпадку. У падобных



сітуацыях вельмі дапамагае генеральная споведзь.

Таксама яна з'яўляецца вялікай дапамогай для ўнутранага супакою ў выпадку сур'ёзнай хваробы, калі знаходжуся ў небяспецы. У сваёй амаль 20-гадовай практыцы я сустрэў такіх людзей, якія ў небяспецы смерці, перад абліччам сур'ёзнай хваробы хочуць паспавядацца з усяго жыцця.

Трэці выпадак – калі генеральная споведзь карысная, то-бок, добра, што яна адбываецца. Сюды адносіцца, напрыклад, сітуацыя радыкальнага навяртання альбо жаданне чалавека паглыбіць сваё рэлігійнае жыццё. Адбывацца такая споведзь можа ў пераломных сітуацыях у жыцці, калі хтосьці выбірае жыццёвы шлях: бярэ шлюб, становіцца дыяканам ці святаром, складае вечныя манаскія абяцанні, прыступае да сакраманту канфірмацыі. Таксама калі хтосьці адзначае, напрыклад, 25 альбо 50 гадоў супольнага жыцця ў сужэнстве, і генеральная споведзь дапаможа глыбей перажыць гэтую падзею.

***– Чаму недастаткова падчас звычайнай споведзі сказаць святару, што я нешта затаіў? Навошта з усяго жыцця спавядацца?***

– Гэта залежыць ад сумлення чалавека, ад нашай уражлівасці. Калі я ў сумленні перакананы, што генеральная споведзь мне дапаможа – дасць глыбейшы духоўны супакой, чым звычайная споведзь, дазволіць паддаць дзеянню Божай ласкі маё мінулае, маю гісторыю, якую пражыў, дазволіць Богу больш задзейнічаць у гэтым мінулым, напрыклад, у ранах, якія атрымаў у дзяцінстве, – тады варта яе здзейсніць.

Да яе мяне ніхто не можа змусіць. Гэта маё дабравольнае рашэнне. Канешне, калі хтосьці мае духоўнага кіраўніка ці сталага спаведніка (гэта можа быць адна і тая ж асоба), той можа бачыць пэўныя духоўныя праблемы чалавека, напрыклад, залежнасць ад нейкага граху, і параіць пэнітэнту генеральную споведзь.

Памятаю, калі я складаў першыя абяцанні ў навіцыяце, то, параіўшыся з духоўным айцом, першы раз у жыцці здзейсніў генеральную споведзь. Пасля яе я проста ляцеў на крылах. Такога пачуцця, чыста эмацыянальнага, не было пасля звычайнай споведзі, хоць мой духоўны кіраўнік і спаведнік, айцец Фелікс, быў вельмі набожны і шляхетны чалавек.

***– Як падрыхтавацца да генеральнай споведзі? Ці ёсць нейкі найлепшы спосаб?***

– Гэта таксама справа вельмі індывідуальная. Да звычайнай споведзі кожны з нас мае сваю методыку падрыхтоўкі: хтосьці ідзе па дзесяці Божых запаведзях, хтосьці звяртае ўвагу на касцёльныя наказы, іншы чалавек чытае Божае слова, напрыклад, восем Евангельскіх благаслаўленняў, і ў гэтым ключы робіць рахунак сумлення, яшчэ нехта бярэ гімн аб любові (13-ы раздзел Другога паслання св. апостала Паўла да Карынцянаў) і замест слова "любоў" падстаўляе сваё імя, а затым глядзіць, ці сапраўды ён практыкуе ў жыцці дасканалую любоў. Так і да генеральнай споведзі метадаў падрыхтоўкі многа, бо ўсё гэта індывідуальна.

# “МОЙ МАЛЕНЬКІ КРЫЖЫК”. ПРА ПРЫКЛАД ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ

працяг са с. 1

Ангеліна Марцішэўская

Пульхныя вусны, пяшчотны позірк, агніста-рудыя валасы, зграбная фігура – Марына была маладой і прыгожай жанчынай. Пра такіх гавораць: “Надта маладой і прыгожай, каб памерці”. Яна адышла ў жыццё вечнае, маючы 32 гады, з дыягназам рак страўніка 4-ай стадыі.

Калі Марыны не стала, узнікла пытанне: а што рабіць з дзённікам? Бо канец выйшаў зусім не такі, на які спадзявалася верніца…

***“Мы вырашылі, што назавём дзённік цытатай з яго – «Мой маленькі крыжык» – і выдадзім на сямейныя сродкі зусім невялічкім тыражом. Атрыманыя экзэмпляры прэзентуем тым, хто падтрымліваў Марыну ў складаны перыяд: родным, сябрам, парафіянам, якія ладзілі падчас хіміі няспынную малітву ў яе інтэнцыі,*** – дзеліцца Аліна, жонка брата Марыны. – ***І хаця канец сапраўды аказаўся іншым, ён усё роўна стаў прыгожым завяршэннем, бо такой была смерць Марыны”.***

Апошнюю старонку дзённіка напісаў яе муж Аляксей. Да сустрэчы з будучай жонкай ён быў няверуючым, аднак Марына перамяніла і яго сэрца. Ён узяў з ёй шлюб, часта разам чытаў малітву верных падчас св. Імшы і, пэўна, перааснсаваў смерць таксама дзякуючы Марыне. Бо лягчэй “адпусціць” чалавека, калі ўсведамляеш: наперадзе сустрэча ў вечнасці.

У завяршальным дапісе Аляксей распавёў, што ў апошнія гадзіны жыцця жонкі, калі побач з яе ложкам пачынаў маліцца Вяночкам да Божай міласэрнасці, ён бачыў, як Марыне адразу станавілася лягчэй. Такім чынам, спраўджваецца абяцанне Езуса с. Фаўстыне, што “калі пры паміраючым моляцца гэтым Вяночкам, неспасцігальная міласэрнасць атуляе душу” (Дз. 811). ***“Апошнія ж словы Марыны былі: «Прабач мяне, Божа». І мне падаецца вельмі важным, калі чалавек, адыходзячы ў жыццё вечнае, мае магчымасць свядома развітацца з гэтым светам. Іншымі словамі – гэта дар шчаслівай смерці”,*** – дадае Аліна.

Марына даведалася пра дыягназ, калі праходзіла чарговае абследаванне па пытаннях зачацця дзіцяці. Яны з мужам пражылі разам ужо 10 гадоў і марылі аб патомстве. Навіна была поўнай нечаканасцю: органы былі празмерна пашкоджаны ракам. Да смерці жанчыне заставалася 9 месяцаў. Ужо пасля ў яе парафіі гэты час параўноўвалі з перыядам паспявання і нараджэння новага чалавека. І хоць Марына заўсёды была чулліваей і адкрытай на Бога і бліжняга, хвароба быццам абвастрыла гэтыя якасці, нанова адкрываючы жанчыну з яшчэ больш чароўнага боку.

***“Яна магла б судзіцца з медыцынскім цэнтрам, які не выявіў пухліну на больш ранняй стадыі, зважаючы на тое, што Марына рабіла біяпсію страўніка. У такіх судах звычайна перамагаюць істцы і атрымліваюць неблагія грошы. Але яна адмовілася, адзначыўшы, што не хоча марнаваць на гэта час, не хоча помсты і не хоча ламаць нікому жыццё. Калі, напрыклад, праходзіла другую па ліку хімію, хоць і пакутавала, страціла ўсе валасы, аднак усё роўна ўсміхалася і дбала пра знешнюю прыгажосць. Яны з мужам мелі традыцыю – кожную гадавіну сустракацца на лаўачцы ў парку, дзе пазнаёміліся. І нават цалкам вычарпаная хваробай, Марына падбірала на аблыселую галаву самую прыгожую хустку і імкнулася на спатканне. Нават за лічаныя гадзіны да смерці, калі адчувала, што адыход ужо блізкі, яна больш непакоілася павышаным ціскам сваёй маці, чым думала пра сябе. Не магла яна застацца абыякавай да цярпення бліжняга”,*** – дзеліцца Аліна.





У гадавіну смерці Марыны, калі святары спявалі Ютрань за памерлых, над яе магілай з'явілася воблака ў выглядзе сэрца

**ВЫТРЫМКА З ДЗЁННІКА МАРЫНЫ**

**В эти дни ко мне приходило много мыслей о том, что происходит, что будет и пр. Я понимала, что начался Великий пост и вместе с ним начались испытания и трудности у многих. Так Бог позволяет нам немного прикоснуться к Его Крестному пути, разделить тяжести и переживания. Я себя представляла маленькой девочкой, которая несёт свой маленький крестик, идя рядом с Иисусом по Крестному пути, и так хорошо становилось от этих мыслей. А потом пришло ощущение, что всё точно будет хорошо, позже, обязательно будет.**

**Еще я много думала о доверии, о доверии к Богу. Так часто мы говорим: «Боже, доверяю Тебе!», а потом начинаем снова гонять миллион мыслей в голове, думать, как что будет, а если не так, а может, надо иначе, пытаемся взять всё под свой контроль, и в чём тогда доверие?**

Са слоў сваячкі, Марына ніколі не была чалавекам пісьмучым, ёй не была ўласціва творчасць і яна не мела звычкі “складаць вершы”. Аднак ёй удалося дакладна перадаць усю сваю цеплыню і поўны давер Богу ў кожнай сітуацыі праз дзённічак. ***“У яе запісах было надта шмат канкрэтыкі тыпу «сёння мы паехалі туды, а ўчора былі там і там». Разам з тым часта тэкст пранізвалі такія праблескі, адкрыцці, якія, як мне падаецца, ёй даваў Госпад. Яна пісала пра тое, як не перастае здзіўляцца і цешыцца любоўю і клопатам, якімі яе адорваюць людзі. Пра тое, што яе хвароба – гэта не толькі яе выпрабаванне, а магчыма, нават у большай ступені не яе. І што яна ўжо бачыць добрыя перамены ў жыцці асоб, якія ахвяруюць высілак малітвы. І як важна, будучы шчаслівым, не закрыцца ва ўласным шчасці, а выходзіць да іншых людзей. І як яна ўдзячна Богу, што Ён умацоўвае яе ў веры”,*** – распавядае Аліна.

Марына была прыхаджанкай маладой парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску. Так склалася, што яна была першай, хто ўзяў у гэтым касцёле шлюб, і першай, чыё пахаванне там адбылося. Кажуць, першы – лепшы. І ў мяне ўзнікла ўражанне, што гэта цалкам пра Марыну: добры прыклад жыцця ў радасці, выдатны прыклад годнай смерці.

# ВЫЙСЦІ З ПАЛЁГКАЙ НА ДУШЫ



Яна Чайко

У юнацтве здавалася, што лепшыя плады прыносіць добрая споведзь – такая, пасля якой адыходзіш ад канфесіянала са слязамі на вачах, бо святар сказаў столькі добрых і патрэбных слоў. Але з цягам часу гэтыя эмоцыі зніклі.

Я з удзячнасцю ўспамінаю ксяндза, да якога доўгі час хадзіла на споведзь. Перад малітвай адпушчэння грахоў ён заўсёды казаў мне словы з Евангелля: “Ідзі і больш не грашы”. Тады для мяне і раскрылася таямніца споведзі: не важна, які святар сядзіць у канфесіянале і якія словы ён скажа. Галоўнае – гэта выйсці з палёгкай на душы, з разуменнем, што грахі адпушчаныя.

Гэтае жаданне доўгай размовы са святаром у канфесіянале – нішто іншае, як жаданне псіхалагічнай парады. Хочацца, каб ты цяпер прыйшоў, сказаў усё, што на душы, і цябе адразу вылечылі. Толькі святар не псіхолаг. За 5 хвілін немагчыма зразумець сутнасць праблемы і тым больш знайсці рашэнне.

Калі я зразумела гэтую простую рэч, пачала прыходзіць да споведзі толькі па адпушчэнне грахоў. Мне цяпер няма розніцы, якімі доўгімі будуць словы святара. Але ўсё ж вельмі цешуся, калі святар нібы адчувае, які грэх клапоціць мяне больш за ўсе астатнія, і ўжо ад яго накіроўвае мяне на працу над сабой.

Часамі бывае цяжка сабрацца з думкамі і стаць у чаргу да канфесіянала. Становіцца вельмі сорамна і брыдка на душы. Але пачуццё ўнутранай вольнасці, якое з'яўляецца пасля споведзі, вартае таго, каб з комам у горле вызнаваць свае грахі. У гэтым і сэнс прабачэння – прызнацца ў сваёй слабасці. І потым адчуць “абдымкі” Міласэрнага Айца.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ПАЧУЦЦЁ ГУМАРУ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ЛЯКАРСТВАМ



*Кс. Павел Салабуда, псіхолаг*

Я ўжо даўно хацеў напісаць на гэтую тэму некалькі добрых парад. Асабліва цяпер, калі мы перажываем цяжкі час пандэміі, якая ніколі не будзе атаясамлівацца з расслабленнем або ўсмешкай, чалавеку патрэбна добрае самаадчуванне і шчасце.

Я заўсёды падкрэсліваю сваім пацыентам, што пазітыўнае мысленне вельмі дапамагае. Калі хтосьці просіць аб дапамозе, мы ніколі не пачынаем супрацоўніцтва непасрэдна з праблемы, а спачатку вучымся або ўзнаўляем спосабы пазітыўна глядзець на тое, што адбываецца вакол нас. Звярніце ўвагу, што сёння больш гаворыцца пра рознага роду трывогі, страх ды стрэс, і амаль нічога аб пазітыўнай псіхалогіі, напрыклад, аб крэатыўнасці, гумары, мудрасці.

Літаральна некалькі дзён таму я прачытаў апошняе інтэрв'ю папы Францішка, у якім ён заклікае ўсіх часцей усміхацца, дзяліцца сваёй радасцю. Святы Айцец гаворыць, што пачуццё гумару – гэта добрае лякарства, якое дапамагае нам у жыцці, прыносіць шмат карысці і мабілізуе нас зусім па-іншаму падыходзіць да складаных рэчаў. Гэта менавіта яно можа зрабіць нас шчаслівымі. У гэтым інтэрв'ю Папа дзеліцца сваім вопытам, што ўжо амаль 40 гадоў адгаворвае малітву да св. Томаса Мора, у канцы якой ёсць наступныя словы: "Дай мне, Пане, пачуццё гумару, удзялі мне ласку разумення жартаў, каб адкрыць трохі радасці ў жыцці і здолець перадаць яе іншым". Я заклікаю ўсіх знайсці поўную версію гэтай малітвы ў інтэрнэце.

***Прапаную некалькі ідэй для развіцця пачуцця гумару ў сабе:***

***1. Пачуццё гумару можа мець кожны чалавек, але важна памятаць, што яно не павінна раніць іншых.***

***2. Навучыцеся адрозніваць, калі жарт падыходзіць, а калі не.***

***3. Навучыцеся смяяцца таксама над сабой і памятайце, што гумар робіць крытыку больш прыемнай.***

***4. Пашырайце гарызонты свайго жыцця, любіце жыццё і сябе. Не прымайце сябе занадта сур'ёзна, будзьце таксама забаўнымі.***

***5. Часцей шукайце смешныя моманты ў паўсядзённым жыцці, а часам нават у складаных сітуацыях.***

***6. Пачуццё гумару можа дапамагаць у развіцці вашай эрудыцыі, вялікага слоўнікавага запасу і выразнага выказвання сваіх думак.***

***7. Не трэба спецыяльна вучыцца жартам, проста будзьце спантаннымі, будзьце самі сабой.***

Станоўчыя эмоцыі заўсёды дапамагаюць. Пачуццё добрага гумару прыносіць шмат карысці ў наша жыццё. Яно можа ўзбагаціць нас, дапамагчы зняць стомленасць і расслабіцца, уразнастаіць наша духоўнае вымярэнне. Давайце ў адпаведнасці са словамі св. Францішка Сальскага "Сумны святы – не святы" паклапоцімся аб сваёй святасці.

# ГРАХІ, ЯКІЯ НАКЛІКАЮЦЬ БОЖУЮ ПОМСТУ

*працяг са с. 1*

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

***У іншым выкладзе гэтымі грахамі з'яўляюцца:***

1. ***Наўмыснае забойства.***
2. ***Садомскі грэх.***
3. ***Крыўда ўбогага, удавы і сіраты.***
4. ***Затрымліванне належнай платы.***

### ЦІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ПАКАРАННЕ НАСТУПСТВАМ ГРАХУ?

Сёння мы не любім ужываць словы "Божая кара", але Біблія часта выкарыстоўвае гэты выраз. А ўся хрысціянская мараль і тэалогія мае сваю крыніцу ў Святым Пісанні. Дык паслухаем, як св. Тамаш Аквінскі задаецца пытаннем, ці з'яўляецца пакаранне наступствам граху і ці можа грэх быць карай за грэх.

У якасці падставы для абмеркавання св. Тамаш цытуе Арыстоцеля, які казаў, што "кары былі ўведзены, каб навярнуць людзей да дабра". Затым ён цытуе св. Аўгусціна, які сцвярджае, што любы дух, выходзячы з ладу, з'яўляецца пакараннем сам для сябе. Св. Тамаш таксама звяртаецца да Святога Пісання і прыгадвае словы св. Паўла да рымлян: "За тваю жорсткасць і няздольнае да пакаяння сэрца ты сам сабе збіраеш гнеў на дзень гневу і аб'яўлення справядлівага суда Бога, які аддасць кожнаму паводле ягоных учынкаў: тым, хто з цярплівасцю ў добрай справе шукае славы, пашаны і нятленнасці, – вечнае жыццё, а тым, хто працівіцца і не слухаецца праўды, але слухаецца несправядлівасці, – гнеў і абурэнне. Нядоля і ўціск спаткае кожнага чалавека, які чыніць зло" (Рым 2, 5–9). Затым св. Тамаш разважае: "Людзі маюць прыродную тэндэнцыю да супрацьўлення працаўніку. А паколькі грэх з'яўляецца бязладнымі паводзінамі, той, хто грашыць, выступае супраць парадку і так атрымлівае адплату, якой з'яўляецца менавіта пакаранне. Чалавечая воля падлягае патройнаму парадку, таму чалавек можа быць падвергнуты патройнаму пакаранню. Людская прырода падпарадкавана парадку ўласнага розуму; затым парадку ў адносінах да кіраўніка ў справах духоўных або людскіх, грамадзянскіх або хатніх; нарэшце, кожны падпарадкаваны паўсюднаму парадку ў адносінах да Божага вяршэнства. Грэх разбурае кожны з гэтых трох парадкаў. Хто грашыць, робіць нешта супраць розуму, супраць чалавечага закону і супраць закону Бога. Таму на чалавека накладаецца патройная кара: ад самога сябе ў выглядзе згрызот сумлення, ад людзей і ад Бога. Такім чынам, неабходнасць пакарання з'яўляецца прамым вынікам граху". Анёльскі Доктар завяршае разважанні выказваннем Дыянісія, што не з'яўляецца злом цярпець пакаранне, але заслужыць яго, і сцвярджае, што кара добрая, бо яна справядлівая і паходзіць ад Бога.

### ЦІ МОЖА ГРЭХ БЫЦЬ КАРАЙ ЗА ГРЭХ?

Св. Тамаш цытуе словы св. Рыгора, які сцвярджае, што некаторыя грахі з'яўляюцца пакараннем за грэх. "Грэх можа быць карай за грэх трыма спосабамі, – разважае ён. – Першы з іх – як прычына зняцця тармазоў, якія абараняюць ад грахоў. Бо грэх пазбаўляе чалавека Божай ласкі, што не дае яму грашыць пад уплывам націску пачуццяў ці д'ябальскіх спакус і падобных раздражняльнікаў. А паколькі страта ласкі з'яўляецца адмераным Богам пакараннем за грэх, можна сказаць, што і грэх, які паходзіць ад страты Божай ласкі, з'яўляецца карай за грэх. У гэтым сэнсе Апостал сказаў пра грэшнікаў: «Таму і аддаў іх Бог праз пажадлівасць іхніх сэрцаў нячыстасці» (Рым 1, 24). Пажадлівасць тут азначае пачуцці, якія перамагаюць чалавека, калі ён губляе дапамогу Божай ласкі. У гэтым сэнсе кожны наступны грэх можна лічыць пакараннем за папярэдні грэх. Другі спосаб – грэх з'яўляецца прычынай пакут як унутраных (напрыклад, у гневе ці зайздрасці), так і знешніх (напрыклад, у людзей, якія шмат працуюць і цярпяць вялікую шкоду, каб выканаць грэшны ўчынак). Трэці спосаб – грэх можа быць прычынай пакарання з-за сваіх наступстваў (напрыклад, калі хтосьці з-за п'янства або абжорства захварэе). У апошніх двух выпадках грэх з'яўляецца не толькі карай за папярэдні грэх, але і карай сам за сябе. Нават Божае пакаранне, якое заключаецца ў тым, што Бог не перашкаджае некаторым людзям упасці ў грэх, мае на мэце карысць дабрадзейнасці. І часам гэта карысць для саміх грэшнікаў, каб у будучым яны сталі больш асцярожнымі і пакорлівымі. А часам і для іншых людзей, каб, убачыўшы, як некаторыя трапляюць з аднаго граху ў іншы, самі больш баяліся правініцца".

### ПЕРШЫ ГРЭХ, ЯКІ НАКЛІКАЕ БОЖУЮ ПОМСТУ, – НАЎМЫСНАЕ ЗАБОЙСТВА

Гаворка ідзе пра забойства, здзейсненае з веданнем, поўнай згодай, уважлівасцю, абдуманае і сплanаванае. У наш час адным з самых страшных злачынстваў у гэтай катэгорыі грахоў, якія наклікаюць Божую помсту, з'яўляецца перапыненне цяжарнасці, здзейсненае ці праз аборт, ці праз супрацьзачаткавыя таблеткі або спіраль. Кожны грэх аборту старанна сплanаваны. Больш за тое, такім чынам мы забіраем жыццё абсалютна невінаватага і безабароннага чалавека. Таму ён надзвычай цяжкі. У 2021 годзе ва ўсім свеце было зроблена больш за 42 мільёны абортаў. Гэта, вядома, не поўная колькасць, бо не ўлічвае выпадкі экстранай кантрацэпцыі, а таксама нелегальныя аборты і аборты з выкарыстаннем таблетак. Неразумна сцвярджаць, што гэтыя дзеці былі зачаты выпадкова, з-за нястрыманасці, пошуку задавальнення і падпарадкавання жаданням, а таму былі пазбаўлены жыцця яшчэ да нараджэння. Калі бацькі і маці гэтых дзяцей не збіраліся нараджаць іх, то не трэба было рабіць тое, што вядзе да зачацця і нараджэння дзіцяці. Нячыстасць і нястрыманасць толькі ўзмацняюць віну.

Не менш вялікім злачынствам сучаснасці з'яўляецца эўтаназія – забойства старых ці хворых людзей.

*Працяг у наступным нумары.*

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як вярнуцца да жыцця ў веры ў Хрыста пасля захаплення эзатэрыкай?

*grodnensis.by*

*Эзатэрыка сягае сваімі каранямі ў антычнасць. Прайшоўшы праз стагоддзі, гэтая згуба атруціла многія чалавечыя душы і працягвае гэта рабіць да цяперашняга часу.*

*Эзатэрыка ўключае ў сябе астралогію, ёгу, магію, тэасофію і многія іншыя ілжэвучэнні. Акультызм і акультныя практыкі з'яўляюцца неад'емныя складнікамі эзатэрыкі. Лічыцца, што эзатэрычныя "веды" заўсёды былі таемнымі і валодалі імі толькі асаблівым чынам пасвечаныя ў іх "тонкасці" людзі. Некаторыя з тых, хто займаецца эзатэрыкай, запэўніваюць, што іх вучэнні і практыкі дапушчальныя і карысныя для прадстаўнікоў усіх веравызнанняў, бо яны быццам бы спрыяюць больш высокаму духоўнаму развіццю.*

*Эзатэрыка – гэта парушэнне першай запаведзі, у якой гаворыцца пра ўшанаванне Адзінага Бога, пра тое, каб толькі з Ім мець адносіны.*

*Першае, з чаго трэба пачаць свой шлях пакаяння, – гэта, вядома, споведзь. Асабіста маё меркаванне – хоць яно і заснавана на адносна невялікім досведзе малітваў аб вызваленні і ўнутраным аздараўленні, – што лепш за ўсё прыступаць да споведзі з усяго жыцця. Чаму так? Бо інтарэс і прывязанасць да эзатэрыкі маюць свае карані, і яны схаваны ў мінулым чалавека, у яго выхаванні, сям'і, у яго ранах... Д'ябал умее спрытна навязваць людзям свае планы. Таму было б добра адрачыся ад усіх грахоў і іх наступстваў ва ўласным жыцці.*

*Вяртанне да Пана – гэта шлях, прасякнуты, вядома, малітвай, размовамі са спаведнікам, духоўнікам. Можна таксама прайсці хрысціянскія курсы, на якіх, у першую чаргу, чалавек пазнае Святое Пісанне, біяграфіі святых, гісторыю і традыцыю Касцёла. Адзін з важных падмуркаў духоўнасці – гэта жыццё сакрамантамі Касцёла, такімі, як, напрыклад, Эўхарыстыя. І яшчэ вельмі добра мець побач больш дасведчанага чалавека, які мог бы падказваць пэўныя моманты рэлігійнага жыцця.*

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА



*Алена Майсюк*

# ДОБРАСУСЕДСТВА

**Мы ўсе плывём у адной лодцы. Калі нам добра, вылучаем гэтую радасць жыцця, і навокал становіцца больш прыемна. Ці звярталі вы ўвагу на тое, як добрасуседства ўплывае на дрэвы, жывёлу, людзей? Прапануем панікнуцца гэтай ідэяй і пазнаёміцца з правіламі, паводле якіх яно адбываецца.**




### КАРЫСЦЬ АД СУПРАЦОЎНІЦТВА

Расліны пускаюць карані глыбока ў зямлю. Там іх радасна сустракаюць мікраарганізмы. Яны выкарыстоўваюць сонечную энергію і выпрацоўваюць пажыўныя элементы – так будуецца здаровы арганізм. Ланцужкоў сімбіятычных адносін (узаемавыгаднае сужыццё розных відаў арганізмаў) бясконцае мноства.

Каб убачыць падобныя адносіны ў прыродзе, дастаткова не ўмешвацца ў натуральны ход падзей. Назірайце, аналізуйце, што з чым узаемадзейнічае. Вясной не перакопвайце градкі: гэта не проста бескарыснае, але і прыгнятаючае ўрадлівасць мерапрыемства. Тое, што прынята называць пустазеллем, з'яўляецца выратаваннем глебы ад дэградацыі.

Розныя расліны вылучаюць рэчывы, якія могуць быць пагібельнымі ці гаючымі для суседніх раслін. Спазнаючы прынцыпы сімбіёзу, можна вырошчваць вялізныя ўраджаі. Вось чаму карысна пакідаць леташнюю лістоту і траву – яны служаць жыллём для насякомых і харчаваннем для жыхароў глебы. Калі пакідаць усё, як ёсць у прыродзе, можна назіраць законы добрасуседства і атрымліваць багатыя ўраджаі.

### ДРЭВЫ ПАКУТУЮЦЬ АД АДЗІНОТЫ

Разгалістае дрэва ў полі прыгожае, але зусім самотнае. Часцей за ўсё яно паказвае, што некалі на гэтым месцы быў дом ці лес. Дрэвы не пачынаюць расці ў адзіноце, ім таксама ўласцівы зносіны з іншымі дрэвамі. Гэта даследаваў і даказаў вучоны Пітэр Волебен. У дрэў ёсць свая выключная мова, пры дапамозе якой яны абменьваюцца інфармацыяй. Звычайна яны выкарыстоўваюць хімічныя і электрычныя імпульсы, у чым ім дапамагаюць грыбніцы, без якіх не з'яўляецца лес.

Навукоўцы з Аўстраліі і Брытаніі таксама выявілі, што дрэвы выкарыстоўваюць каранёвую сістэму і патрэскваюць на частаце ў 220 герц. Так яны своечасова могуць перадаваць іншым дрэвам інфармацыю. І нават корань спілаванага дрэва падтрымліваюць таго ж віду суседзі. Гэтыя адкрыцці яшчэ раз паказваюць нам, наколькі шматстайнае ўсё жывое, якое імкнецца быць разам і жыць на карысць супольнасці.

### НАМ ДАПАМАГАЕ МІКРАБІЁТА

У чалавека мноства памочнікаў. Нават мікробы знаходзяцца з ім у добрасуседстве. Яны паўсюль, ад іх не адгарадзіцца. Таму лепшае, што мы можам, – пагадзіцца, што яны нашы памочнікі. Напрыклад, у "Новай германскай медыцыне" доктар Хамер даследаваў, што адбываецца ў арганізме, калі ён хворы, і высветліў механізмы дапамогі чалавеку вялікай разнастайнасцю мікраарганізмаў.

У кішэчным тракце такімі памочнікамі з'яўляецца мікрабіёта. Яна расшчапляе атрымліваемае пажыўнае асяроддзе да патрэбных арганізму элементаў. Нарыў вакол загнанай пад скуру стрэмкі – таксама сведчанне дапамогі для нас. Прырода прыдумала шмат механізмаў, якія можна заўважыць, калі пачынаеш прыглядацца да сябе.

### ІНФУЗОРЫЯ-ТУФЕЛЬКА АЧЫШЧАЕ ВАДУ

Бактэрыі, арганічныя рэшткі, якія знаходзяцца ў вадзе, – гэта выдатны корм для інфузорый. А яны з'яўляюцца выдатным кормам для малькоў. Жыццядзейнасць інфузорыі-туфелькі непасрэдна дапамагае ўсяму жывому атрымліваць гаючую, чыстую ваду. Для ачысткі вады неабходны час і магчымасць існаваць інфузорыям. Перашкодай можа стаць празмернае забруджванне вадаёмаў хімічнымі рэчывамі.

Напрыклад, у бытавых мыйных сродках утрымліваюцца павярхоўна-актыўныя рэчывы (ПАР), яны могуць назапашвацца ў арганізме і парушаць яго натуральнае функцыянаванне. З-за ПАР вада празмерна цвіце, што знішчае жывыя арганізмы. Паспрабуйце адмовіцца ад рэчываў, якія ўтрымліваюць ПАР, і вы таксама зможаце стаць добрым суседам для ўсяго жывога.

### ПРАВОДЗЬЦЕ БОЛЬШ ЧАСУ НА ПРЫРОДЗЕ І З ЖЫВЁЛАМІ

Для чалавека вельмі карысна любое добрасуседства з птушкамі. Кожны від шчабеча на розных гукавых частотах, і арганізм чалавека здольны падстройваць рытм усіх органаў, як па камертону. А колькі дапамогі ў атрыманні ўраджаю і абароне дрэў. Колькі мы яшчэ не ведаем аб гэтым добрасуседстве. Будуйце для птушак домікі, высаджвайце кусты і пакідайце сухастой – яны за ўсё гэта будуць удзячны.

Такімі ж здольнасцямі настройваць органы валодаюць жывёлы, дрэвы. Напрыклад, іпатэрапія вельмі добра дапамагае аднавіць сардэчны рытм. Мурчанне кашачых адбываецца на частаце 24-44 герц, у гэты час аднаўляюцца клеткі і актывізуюцца ахоўныя ўласцівасці арганізма.

Будзьце добрыя з вашымі суседзямі! Нават калі вы не чакаеце дапамогі, яны шчыра вам яе даюць.

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***20 лютага – VII Звычайная нядзеля***
***Лк 6, 27–38***

Езус сказаў сваім вучням: "Кажу вам, хто слухае: любіце ворагаў вашых, дабро рабіце тым, хто вас ненавідзіць. Блаславіце тых, хто вас праклінае, маліцеся за тых, хто вас крыўдзіць. Таму, хто ўдарыў цябе па шчацэ, падстаў і другую; і таму, хто адбірае ў цябе плашч, не забараняй узяць і кашулю. Кожнаму, хто просіць у цябе, давай, і ад таго, хто ўзяў тваё, не дамагайся звароту. Рабіце людзям так, як хочаце, каб яны вам рабілі. Бо калі любіце тых, хто любіць вас, якая вам за гэта падзяка? Бо грэшнікі таксама любяць тых, хто іх любіць. І калі чыніце дабро тым, хто вам чыніць дабро, якая вам за тое падзяка? І грэшнікі робяць тое самае. І калі пазычаеце тым, ад каго спадзяецеся атрымаць назад, якая вам за тое падзяка? Бо і грэшнікі пазычаюць грэшнікам, каб атрымаць столькі ж. Але вы любіце ворагаў вашых, і чыніце дабро, і пазычайце, не чакаючы нічога ўзамен, і будзе ўзнагарода ваша вялікая, і будзеце сынамі Найвышэйшага, бо Ён ласкавы да няўдзячных і да злых. Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны. Не судзіце, і не будуць судзіць вас; не асуджайце, і не будуць асуджаць вас; прабачайце, і прабачаць вам. Давайце, і будзе дадзена вам: меру добрую, уціснутую, утрэсеную і з верхам адсыплюць вам у падол ваш. Бо якою мераю мераеце, такой і вам будзе адмерана".

## Глядзець з любоўю

*Езус не толькі гаворыць пра такую любоў, якой Ён сам палюбіў кожнага чалавека. Ён дэманструе яе людзям праз усё сваё жыццё, ажно да крыжа. Хрыстос сустракаецца з людзьмі, з якімі ніхто іншы ніколі не хацеў бы кантактаваць. Прымае мытнікаў, грэшнікаў, пракажоных. Падчас сваёй мукі не сварыцца, не праклінае тых, хто біцуе Яго, дае аплявухі і крыжуе. Не абараняецца, калі ў Яго забіраюць вопратку, моліцца за сваіх пераследнікаў, просіць для іх прабачэння. Хрыстос палюбіў да канца, палюбіў да крыжа.*

*Давайце паспрабуем з любоўю ставіцца да іншых кожны дзень. Паглядзім на чалавека побач з намі, як на брата ці сястру. Акажам ім міласэрнасць, бо гэтага хоча ад нас Бог: "Будзьце міласэрнымі, бо Я міласэрны" (параўн. Лк 6, 36).*

*Пане Езу Хрысце, дапамагай мне аказваць міласэрнасць іншым, а таксама глядзець на кожнага чалавека, як на брата!*

***27 лютага – VIII Звычайная нядзеля***
***Лк 6, 39–45***

Езус расказаў сваім вучням такую прыпавесць: "Хіба можа сляпы вадзіць сляпога? Ці ж не зваляцца абодва ў яму? Вучань не большы за настаўніка. Але кожны добра падрыхтаваны стане такім, як яго настаўнік. Чаму ты бачыш шчэпку ў воку брата свайго, а бервяна ва ўласным воку не заўважаеш? Як ты можаш казаць брату свайму: Дай, браце, я выцягну шчэпку з вока твайго, – калі сам не бачыш бервяна ў сваім воку? Крывадушнік, выцягні спачатку бервяно са свайго вока, і тады ўбачыш, як выцягнуць шчэпку з вока свайго брата. Няма добрага дрэва, якое б прыносіла дрэнны плод, ці дрэннага дрэва, якое б прыносіла добры плод. Бо кожнае дрэва пазнаецца па яго плодзе: не збіраюць з церня смоквы, а з куста ажын не збіраюць вінаграду. Добры чалавек выносіць з добрага скарбу сэрца дабро, а дрэнны чалавек з благога сэрца выносіць зло, бо пра тое, чым напоўнена сэрца, гавораць вусны яго".

## Бачыць сябе

*Езус Хрыстус ставіць перад намі цяжкую задачу. Гэтая задача – уменне настаўляць іншага чалавека. Для некаторых людзей гэта зусім не праблема, бо яны, не міргнуўшы вокам, могуць указаць на нечыя памылкі і недасканаласці. Аднак для большасці павучанне іншых – справа нялёгкая.*

*У хрысціянскім настаўленні неабходна ўсведамляць свае слабасці. Без пакоры немагчыма па-сапраўднаму папракнуць іншага чалавека. Маё настаўленне павінна заключацца ў тым, што, перш чым убачу недасканаласці іншага, я бачу іх у сабе.*

*Павучанне брата можа быць сапраўдным, калі сам настаўнік бачыць памылкі ў сваім жыцці і хоча іх выправіць. Ілжэнастаўнік не можа стаць у праўдзе. Ён носіць маску крывадушнай дасканаласці. Не прымае, што толькі тады яго вучэнне будзе праўдзівым, калі яго жыццё будзе пацвярджаць яго словы. Таму, калі мы хочам навучыць іншых, як жыць, давайце паступаць так, каб наша жыццё было добрай падказкай для заблукалых.*

*Пане Езу Хрысце, навучы мяне заўважаць свае недасканаласці і недахопы, а толькі пасля засяроджваць увагу іншых на іх памылках!*

АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ШЭМЕТУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчасця, радасці, цярплівасці ў святарскай паслузе, шчодрых дароў Святога Духа, добразычлівых людзей побач. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна пераажыць кожны дзень. Шчасці Божа!*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, парафіі Адамавічы і Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РАМАНУ ЯЛОЎЧЫКУ**

*з нагоды імянін жадаем адчуваць дабрыню і любоў ад кожнага чалавека, якога сустракаеце на сваім шляху. Жадаем Вам адвагі, каб пастаянна адкрываць людзям скарб Божых таямніц і ахоўваць тое, што даверана Касцёлу. Няхай Святы Дух асвятляе кожны Ваш дзень, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.*

*З малітвай парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гнезна*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВАЛЯНЦІНУ ХВЕДУКУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог заўсёды Вам дапамагае і адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі. Жадаем няспыннай апекі Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шчырых і зычлівых людзей побач.*

*Родныя: сем'і Палубок, Амяльянчык, Хвядук*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні: шчасця, моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, шмат сіл для абвяшчэння Божай праўды і няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень душпастырскай паслугі. Няхай Езус, які паказаў Вам шлях да святарства, дапамагае ў рэалізацыі Божых планаў, а Святы Дух спасылае свае шчодрыя дары.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Дуды*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ ШЭМЕТУ**

*з нагоды імянін перасылаем найлепшыя пажаданні. Жадаем Вам трываць у Богу і жыць паўнатой Божых ласкаў. Няхай Ваша мудрасць і абвяшчаемае Божае слова дапамагаюць нам узрастаць у Любові.*

*Удзячныя парафіяне з Адамавічаў*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

**ПАВАЖАНАМУ БРАТУ ВІКТАРУ ЦЯСЛОЎСКАМУ І ЯГО РОДНЫМ**

у сувязі са смерцю мамы перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог дадасць Вам моцы, каб пераажыць цяжар страты блізкага чалавека. Яднаемся з Вамі ў малітве за супакой яе душы.

*З павагай і малітвай вернікі парафіі Ліда-Індустрыяльны*

АНОНСЫ

# Рэкалекцыі для мужчын перад Вялікім постам пройдуць у Баранавічах

**25–27 лютага ў касцёле Маці Божай Фацімскай (г. Баранавічы, пр-т Савецкі, 18) пройдуць вялікапосныя рэкалекцыі для мужчын католікаў. Тэма духоўных практыкаванняў – "Пакліканне мужчыны".**

Навошта я жыву і якая мая роля ў гэтым жыцці? Гэтае пытанне толькі на першы погляд можа здацца асабліва філасофскім і далёкім ад практыкі паўсядзённага жыцця. Насамрэч ад адказу на яго залежаць мае канкрэтныя ўчынкі тут і цяпер, маё стаўленне да жыцця і людзей, якія мяне акружаюць. Вядома ж, у пошуку адказу на гэтае пытанне памылка можа абярнуцца крыўдным расчараваннем, калі не трагедыяй усяго жыцця. Таму варта шукаць адказ у тым, што тоіць у сабе ісціну – у Божым аб'яўленні, Божым слове. Менавіта яно адводзіць мужчыну ролю абаронцы, які змагаецца, у першую чаргу, са злом духоўным. Што гэта значыць? Як выглядае гэтая барацьба? Як у ёй застацца пераможцам? На гэтыя і іншыя пытанні мужчыны паспрабуюць знайсці адказы разам з біскупам Алегам Буткевічам, ардынарыем Віцебскай дыяцэзіі.

***Праграму рэкалекцый можна знайсці на сайце msj.by.***
***Дадатковая інфармацыя па тэлефонах: (8 033) 624-42-85 – Павел, (8 033) 621-66-56 – Віталь, (8 044) 733-71-67 – Viber.***

*Рэкамендуемае ахвяраванне, якое ўключае ў сябе начлег і харчаванне, – 65.00 BYN.*
*Калі па якіх-небудзь прычынах не атрымліваецца ўдзельнічаць у рэкалекцыях тры дні, можна прыняць удзел у асобных пунктах праграмы ў зручны для Вас час.*

*З сабой па магчымасці неабходна ўзяць: Біблію, малітоўнік, сшытак, ручку. Таксама нагадваем аб неабходнасці захавання масачнага рэжыму.*

КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У Бабруйску прайшоў 7-ы Сямейны баль, у якім узялі ўдзел сужэнскія пары з розных мясцін. Незвычайная імпрэза, якая стала ўжо добрай традыцыяй, з'яўляецца ініцыятывай дабрачыннага фонду абароны жыцця і сям'і "Адкрытыя сэрцы" і накіравана на папулярызацыю хрысціянскіх каштоўнасцей. У сёлетнім калядным балі ўдзельнічала восем сужэнскіх пар. Тры гадзіны танцаў у канцэртнай зале бабруйскага санаторыя прайшлі ў атмасферы рамантыкі, шчырай радасці, узаемнай зацікаўленасці і любові.

Згаданы Баль – гэта не толькі танцы, феерычная атмасфера, новыя знаёмствы, гульні і добры настрой. Гэта яшчэ месца, дзе сужэнцы могуць пабыць разам. На жаль, у сучасным свеце, дзе пануе імклівы тэмп жыцця, на гэта часта не хапае часу. Таму сямейны баль – добрая магчымасць спыніцца, адарвацца ад мітусні, затрымацца на хвілінку і лепш адчуць асалоду ў тым, што мае такую прыгожую назву – сужэнства.




**рэлігійны часопіс**

Пад'язджаючы да рыбных ставоў каля вёскі Шэметава, яшчэ ў 70-ыя гады мінулага стагоддзя можна было ўбачыць крыху нахілены невысокі крыж. Дамоў паблізу ніякіх не было, і крыж здаваўся такім самотным, быццам пакінутым. Але пры ім заўсёды было галубінае сямейства, а белы голуб вельмі часта сядзеў на перакладзіне крыжа. Нават не баяўся людзей, якія час ад часу падыходзілі да крыжа, на хвілінку затрымліваліся, прасячы Бога аб здароўі, добрым надвор'і, дажджы і багатым ураджаі, а рыбакі – аб добрым улове. Вясною прасілі блаславлення на пачатак палявых прац, а таксама выганяючы сваіх кароў і авечак на пашу.

Яніна Іватовіч з вёскі Яневічы апавядала, што гэты крыж не раз спілоўвалі мясцовыя камуністы, але людзі знаходзілі яго і ставілі зноў. Ніхто не ведае дакладна, хто вяртаў крыж на месца, але людзі лічаць, што гэта маглі рабіць толькі рыбакі.




**беларуская рэдакцыя**

Папа напісаў прадмову да кнігі-інтэрв'ю з былым мафіёзі. Аўтарам выдання з'яўляецца кс. Бэніта Джарджэці, журналіст і турэмны капелан, які на старонках кнігі вядзе гутарку з былым злачынцам Луіджы Банавентурай, які цяпер супрацоўнічае з правасуддзем.

Папа адзначыў, што чалавек аздараўляецца, калі адчувае сябе любімым: тады ў ім прабуджаецца "туга па любові". Калі ж мы пакідаем чалавека пагразаць у яго памылках і не выпраўляем яго, тады становімся саўдзельнікамі яго віны: раўнадушша да яго лёсу раўназначна "неаказанню дапамогі падчас дарожна-транспартнага здарэння", – дадаў Святы Айцец. Ён падкрэсліў, што мужны і рызыкоўны выбар Луіджы Банавентуры з'яўляецца "зернем надзеі", пасеяным на землях, якія пацярпелі ад мафіі: яго сведчанне можа стаць прыкладам для многіх людзей, якія, адмовіўшыся ад логікі злоўжыванняў, могуць таксама адкрыцца новай перспектыве.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Адбылася сустрэча сясцёр Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта ў фармаце анлайн, прысвечаная Сіноду Біскупаў на тэму "На карысць сінадальнага Касцёла: камунія, удзел і місія". У сустрэчы, якая праводзілася з дапамогай інтэрнэту, удзельнічала большасць сясцёр назарэтанак, якія служаць у Беларусі.

Сярод удзельніц была с. Аліна Фурчык, генеральная асістэнтка Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта. Сястра на прыкладзе сустрэчы Езуса з багатым юнаком патлумачыла ідэю сінадальнасці, канцэнтруючыся на трох ключавых словах: сустрэць, слухаць, распазнаваць. Сустрэча паказала, якую вялікую патрэбу маюць сёстры адна ў адной, каб разам узрастаць у веры, рэалізуючы сваё манаскае пакліканне.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**;
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37**; **(8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**.
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.